


ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 3
























**ЗДАЕЦЦА,** ШТО ГАРЫЗОНТ ЧЫСТЫ, СЯРЖАНТ.

ТАДЫ ВЫСОЎВАЕМСЯ, КАПРАЛ.

І ДАВАЙЦЕ СКОНЧЫМ З ГЭТАЙ **НЕПРЫЕМНАЙ** СПРАВАЙ, ПЕРШ ЧЫМ ХТО-НЕБУДЗЬ ВЕРНЕЦЦА І **ЗЛОВІЦЬ** НАС.

Другая частка з дзвюх

# Мышыная паліцыя ніколі ня спіць



Гісторыя пра каханне



Частка першая

*Сцэнар:*
***Біл Уілінгхэм***
*Аловак:*
***Марк Букінгем***
*Туш:*
***Сціў Лэйалоа***
*Ілюстрацыя:*
***Браян Талбат***
*Колер і сепарыраванне:*
***Даніэль Возо***
*Вокладка:*
***Джэймс Джын***
*Ас. рэдактара:*
***Марыя Хохнэр***
*Рэдактар:*
***Шэлі Бонд***
*Паданні створаны*
***Б. Уілінгхэмам***
*Пераклад на беларускую:*
***Артур Барадачоў***
*Афармленне:*
***Сяргей Козыраў***






ТЫ ЎПЭНЕНА, ШТО ГАТОВА **ЗРАБІЦЬ** ГЭТА, БЕЛА?

ТЫ СКАЗАЎ, ШТО СПЫНІШ **ЦАЦКАЦЦА** СА МНОЙ ТАДЫ, КАЛІ Я ЗМАГУ ТРЫ РАЗЫ ПРАЙСЦІ ВУЛІЦУ БУЛФІНЧ ТУДЫ І НАЗАД, САМАСТОЙНА, **БЕЗ** МАЙГО ІНВАЛІДНАГА КРЭСЛА.

ДЫК ВОСЬ, БУДЗЬ ШТО БУДЗЕ, АЛЕ **ГЭТА** ТОЙ САМЫ ДЗЕНЬ, ПАСЛЯ ЯКОГА, РАЗРАЗІ МЯНЕ МАЛАНКА, Я ПРЫМУШУ ЦЯБЕ СТРЫМАЦЬ **АБЯЦАННЕ**.

МЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ГЭТЫМ ЗАЙМЕМСЯ.

А Я Ў ГЭТЫ ЧАС ЗАЧЫНЕНЫ Ў КАРОБЦЫ, У ПАРАЎНАННІ З ЯКОЙ НАВАТ **ШАФА** ЗДАЕЦЦА РАСКОШНАЙ.

НЕБАРАКА БОЗЛІ. ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ МОЖАШ НАВЕДВАЦЬ МЯНЕ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ ДЛЯ РЭГУЛЯРНАГА БРЫФІНГУ ПА БЯСПЕЦЫ.

І КАЛІ МЫ ЎЖО ЗАГАВАРЫЛІ ПРА ГЭТА, ЧАМУ Б ТАБЕ **ЗАРАЗ** НЕ ЎВЕСЦІ МЯНЕ Ў КУРС СПРАВЫ, ПАКУЛЬ Я ЗАХРАСЛА, НАРАЗАЮЧЫ КОЛЫ?

**ПАВЕДАМЛЯЦЬ** АСАБЛІВА НЯМА ЧАГО. ЗДАЕЦЦА, ШТО НІХТО З КАЗАЧНЫХ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЯЖОЙ У ЗВЫЧАЙНЫМ СВЕЦЕ, НІЧОГА НЯ РОБЯЦЬ.

ГЭТА ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ ТВАІХ ТАК ЗВАНЫХ **«ТУРЫСТАЎ»**?

ВУЧНІ, ПАДЫДЗІЦЕ.

ЗАМАК ІФ
Акадэмія фехтавання

Кветкавая крама
Штука зеляніны

ТАК ТОЧНА, МЭМ, АЛЕ Я НАГАДВАЮ, ШТО З УСЯГО ТРЫМА ПАЛЯВЫМІ АГЕНТАМІ НА ЎВЕСЬ СВЕТ, Я НАЎРАД МАГУ **ГАРАНТАВАЦЬ**...

ЗАБУДЗЬСЯ, БОЗЛІ. МЫ **НЕ** ПЕРАТВОРЫМ ГЭТА Ў ЧАРГОВУЮ СЕРЫЮ СКАРГАЎ ПРА ТВОЙ ПРАЦОЎНЫ БЮДЖЭТ.

СЁННЯ Ў МЯНЕ ДЛЯ ВАС **АСАБЛІВАЯ ЗАКУСЬ**.

ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПРАСУНУТАГА ФЕХТАВАННЯ АД ДВУХ ПРЫЗНАНЫХ **ЭКСПЕРТАЎ** ГЭТАГА МАСТАЦТВА.







МАБЫЦЬ ЗМЕНІМ ГЭТЫЯ ЦАЦКІ НА **САПРАЎДНЫЯ** КЛІНКІ, КАЛІ ВЫ ТАК АДДАЕЦЕ ПЕРАВАГУ, ВАША ВЫСОКАСЦЬ... І БУДЗЕМ БІЦЦА ДА ПЕРШАЙ КРЫВІ?
АЛЕ ВЫ ЯШЧЭ НІКОЛІ НЯ БАЧЫЛІ САПРАЎДНАЙ ДЭМАНСТРАЦЫІ ЯГО ЎМЕЛАСЦІ...
ТАМУ ШТО РАНЕЙ НІКОЛІ Ў НАС НЯ БЫЎ ДАСТУПНЫ АПАНЕНТ, **ВАРТАГА** ЎСІХ ЯГО СІЛ... ТАКОГА **РАНЕЙ** НЕ БЫЛО.


ПАКАЖАМ ГЭТЫМ ДЗЕТКАМ **САПРАЎДНАЕ** ШОЎ?
СЁННЯ НАМ ПАШАНЦАВАЛА БЫЦЬ ГАНАРАВАНЫМІ ВІЗІТУ ІНШАГА ЗНАКАМІТАГА МАЭСТРА КЛІНКОЎ, ВЫДАТНАГА ПРЫНЦА...
...ЯКІ ЦЯПЕР СТАЛА ЖЫВЕ Ў ФЭЙБЛТАЎНЕ.


ТАКІМ ЧЫНАМ БУДЗЬЦЕ ЎВАЖЛІВЫМІ. І НАВУЧЫЦЕСЯ ЧАМУНЕБУДЗЬ.
ВОХ НЕ, ЖАКЛІВЫ ЛОРД. ГЭТА **ЎЖО ВЕЛЬМІ** ДРАМАТЫЧНА ДЛЯ ЛЁГКАЙ ПАЎДЗЁННАЙ ВАЛТУЗНІ.
РАПІРЫ ПАКУЛЬ БУДУЦЬ У САМЫ РАЗ.


ВЫ ГАТОВЫ, ДЖЭНТЛЬМЭНЫ?
ТАК.
**ЗАЎСЁДЫ.**
ТАДЫ ПАЧЫНАЙЦЕ.


ЯК Я РАЗУМЕЮ, ВАМ НЕ ПАДАБАЮЦ-ЦА ШПІЁНСКІЯ ЗАДАННІ, СЯРЖАНТ ВІЛФРЭД?
Таверна Брэнсток
Крыштальныя чаравічкі
Гасцініца Жоўтая


НЕ, МНЕ ГЭТА АБСА-ЛЮТНА НЕ ПАДАБАЕЦ-ЦА. ДЖЭНТЛЬМЭНЫ НЕ ПАВІННЫ ЧЫТАЦЬ ЧУЖУЮ ПОШТУ.


АЛЕ ПАКОЛЬКІ МЫ НЯ МОЖАМ ВЫБІРАЦЬ, ЯКІЯ ЗАДАННІ МЫ ПАВІННЫ ВЫКОНВАЦЬ...
ПРЫНАМСІ МЫ ВЫБІРАЕМСЯ З ФЕРМЫ.


Я Б ЛЕПШ ЗАСТАЎСЯ НА ФЕРМЕ, ПАТРУЛІРУЮЧЫ МЕЖЫ СМОЛТАЎНА. КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ НАС ПАСЫЛАЮЦЬ У ГОРАД, ГЭТА СКАНЧАЕЦЦА ТЫМ, ШТО АДЗІН ГУЛІВЕР ШПІЁНІЦЬ ЗА ІНШЫМ.


СТОП!
ДОТЫК ПА МЭЦЕ!
ПЕРШАЕ АЧКО ЛОРДУ **СІНЕБАРОДУ**!

АЛЕ Ж ГЭТА ДЛЯ ДОБРЫХ МЭТ, ПРАВІЛЬНА, СЯРЖАНТ? ЯНЫ **ТАКІЯ Ж** КАЗАЧНЫЯ, ЯК І МЫ. АДНА ВЯЛІКАЯ ШЧАСЛІВАЯ СЯМ'Я?

**НАЎРАД.**

КАЗАЧНЫЯ ЦІ ЗВЫЧАЙНЫЯ, ЯНЫ ЎСЁ Ж ГУЛІВЕРЫ, І НАМ БЫ ЛЕПЕЙ НЯ БЫЦЬ **УЦЯГНУТЫМІ** Ў ІХ ІНТРЫГІ.

КАМУ «НАМ», ЛІЛІПУТАМ? Я ЗВЫЧАЙНАЯ МЫШ-ПАЛЁЎКА, ЯКУЮ ЗАКЛІКАЛІ Ў ВАШУ МЫШЫНУЮ ПАЛІЦЫЮ.

**КОННУЮ** ПАЛІЦЫЮ, КАПРАЛ РЭКС.

ЩЕЛК!

ДОБРА, АЛЕ ГЭТА ВАШ НАРОД ПРЫДУМАЎ МЯНУШКУ, НЯ МОЙ.

А ХІБА НЯ ВЫ МНЕ ТОЛЬКІ ШТО КАЗАЛІ, ШТО НЯМА НІЯКАГА «ВАШАГА НАРОДА» І «МАЙГО НАРОДА»? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З «УСЕ МЫ КАЗАЧНЫЯ»?

ПРЫНАМСІ НАВЯДЗЕННЕ БЫЛО ДАКЛАДНАЕ. ГЭТА ЯГО ДЗЁННІК, ВЫ СТОЙЦЕ Ў ДАЗОРЫ, ПАКУЛЬ Я ЧЫТАЮ.

СІНЕБАРОД І ЯГО ПРЫСЛУЖНІК ПАВІННЫ БЫЦЬ ЯШЧЭ ДАСТАТКОВА ДОЎГА ЗАНЯТЫ Ў БЯСПЕЧНЫМ АДДАЛЕННІ Ў ФЕХТАВАЛЬНАЙ СТУДЫІ.

Сінебарод Дзённік Том ММ

ТАК. АЛЕ ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ЦІ ЁСЦЬ У ЯГО КОШКА? ЦІ САБАКА? ЦІ ЯШЧЭ ШТО ГОРШ? Я НЕ.



СПРАВЫ НА ФЕРМЕ БОЛЬШ ЦІ МЕШ ВЯРНУЛІСЯ ДА НОРМЫ.

«ТВАЯ СЯСТРА, ЗДАЕЦЦА, НЯДРЭННА СПРАЎЛЯЕЦЦА З КІРАВАННЕМ».

НЕ, ДЖЭК. ТЫ **НЯ** МОЖАШ ПРЫЕХАЦЬ СЮДЫ ЎБАЧЫЦЦА СА МНОЙ.

ТАМУ ШТО МЫ З ТАБОЙ БОЛЬШ НЯ **ПАРА**.

СІЛАСНАГА ЗБОЖЖА НА НАСТУПНЫ ГОД У НАС БОЛЬШ, ЧЫМ ТРЭБА, РУЖА, АЛЕ У НАС БУДЗЕ НЕ ХАПАЦЬ ЗІМАВОЙ ПШАНІЦЫ І ЦУКРОВАЙ КУКУРУЗЫ.

ТАМУ ШТО ТЫ НЯ БЫЎ ВЕЛЬМІ ДОБРЫМ **ХЛОПЦАМ**...

...АКРАМЯ ТАГО, ШТО ТЫ ДАПАМАГАЎ МНЕ ДА **СМЕРЦІ** РАЗДРАЖНЯЦЬ МАЮ СЯСТРУ.

З МАЛОЧНА-ЯЕЧНАЙ ГАСПАДАРКАЙ УСЁ ДОБРА... АКРАМЯ **КАЗІНАГА** МАЛАКА.

**ПА МЭЦЕ!**

СІНЕБАРОД ВЯДЗЕ, ДВА НУЛЬ!

***ДЖЭКАЛОП** – У АМЕРЫКАНСКІМ АНГЛІЙСКІМ ТАК НАЗЫВАЮЦЬ РАГАТАГА ЗАЙЦА, ТАКСАМА ЁСЦЬ ПАДАБЕНСТВА З ІМЕМ ДЖЭК.
















**АДСЫЛКА ДА ВЯДОМАЙ КАЗКІ, ДЗЕ ПОШЧАК НЕ ДАВАЎ КАЗЛАМ ПРАЙСЦІ ПА МОСЦЕ ДА ЛУЖКА СА СМАЧНАЙ ТРАВОЙ.
















*ЦЫТАТА З ВЯДОМАЙ АНГЛІСКАЙ ДЗІЦЯЧАЙ ПЕСЕНЬКІ OLD MOTHER HUBBARD.


СТОП!
УСЁ. ЛОРД СІНЕБАРОД **ПЕРАМАГАЕ** Ў ГЭТАЙ СУТЫЧЦЫ. ПЯЦЬ **НУЛЬ**.


ХА! ЧЫСТАЯ ПЕРАМОГА!
МАЕ ВІНШАВАННІ, СІНЕБАРОД.


ТЫ, ЗРАЗУМЕЛА, БЫЎ **НЯДРЭННЫ**. ПРОСТА ТЫ ДАЎНО НЕ ПРАКТЫВАЎСЯ. ЦЯЖКА ТРЭНАВАЦ-ЦА З ТВАІМІ НЯДАЎНІМІ РАЗ'ЕЗДАМІ.
ВЫДАТНА ТРЫМАЎСЯ. НЯМА ЧАГО **САРОМІЦЦА**.
ЗРАЗУ-МЕЛА. ДОБРА.


ЦЯПЕР, КАЛІ ВЫ МЯНЕ ПРАБАЧЫЦЕ...


Я ЛІЧУ, ЯГО ВЫСОКАСЦЬ ПЕРАЖЫ-ВЕ ГЭТА, ПРАЗ НЕКА-ТОРЫ ЧАС.
ПОЙДЗЕМ, ХОБС. УЖО ПОЗНА І Я ЖАДАЮ ПРЫНЯЦЬ ВАННУЮ ДА ВЯЧЭРЫ.
ВЕЛЬМІ ДОБРА, СЭР.



ТЫ Б СКАЗАЎ СВАЙМУ ЛЁКАЮ ХОБСУ, ШТО ЯМУ НЯ ТРЭБА АПРАНАЦЬ СВАЕ ЧАРЫ АБЛІЧЧА КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ Я ЯГО БАЧУ.

Я НЕ ФАНАТЫЧНАЯ ВІДЕАЦЭНТРЫСТКА.

І Я НАЎРАД ПАЛАХЛІВАЯ ЛАНЬ, ЯКАЯ ГУБЛЯЕ ПАМЯЦЬ ПРЫ ВЫГЛЯДЗЕ САМЦА ГОБЛІНА З ЯГО САПРАЎДНАГА БОКУ.

ЗЛАТАВАЛОСКА, САПРАЎДНЫ БОК ХОБСА **ПРЫЎЛАШЧЫЎ** ВОРАГ, ТАКСАМА ЯК І ТВОЙ, І МОЙ.

ТЫ **ВЕДАЕШ**, ПРА ШТО Я.

ТАК, І Я ВЕДАЮ ПРА **ЎСЁ БОЛЬШ** НЕПРЫКРЫТЫЯ ПРАПАНОВЫ, ЯКІЯ ТЫ РОБІШ ХОБСУ **КОЖНЫ** РАЗ, КАЛІ ЯМУ ДАВОДЗІЦЦА НАВЕДВАЦЦА Ў ТВАЕ ПАКОІ.

ЁН **ПАВЕДАМІЎ** ТАБЕ?

ЁН ПАВЕДАМІЎ МНЕ **ЎСЁ**, І ЯМУ НЯ ВЕЛЬМІ ЎТУЛЬНА АД ТВАІХ ПАВОДЗІН У АПОШНІ ЧАС.

НЕ ЦІКАВІЦЦА ЖАНЧЫНАМІ, ХЕХ?

ПРЫНАМСІ ЧАЛАВЕЧЫМІ ЖАНЧЫНАМІ, ТАМУ, КАЛІ ЛАСКА, ПАКІНЬ ЯГО Ў СУПАКОІ. У ЯГО ЁСЦЬ СВАЕ **АБАВЯЗКІ**.

АЛЕ МНЕ СУМНА. **ЗАЧЫНЕНА** Ў ГЭТЫМ ТУЖЛІВЫМ МЕСЦЫ, ЗА НЕКАЛЬКІ **МЕСЯЦАЎ** ВЫ АБОДВА... АДЗІНЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІХ Я БАЧЫЛА.

МНЕ ТРЭБА АДЦЯГНУЦЦА. Я АБВЫКЛА ДА БОЛЬШАЙ **РАЗНАСТАЙНАСЦІ** Ў МАІМ... НЕ, ТЫ, БЕЗУМОЎНА, ДОБРЫ І ЎСЁ ТАКОЕ, АЛЕ...

ТУТ НІЧОГА НЯ ЗРОБІШ, У ІНШЫМ МЕСЦЫ ТАБЕ НЕБЯСПЕЧНА. ЗАРАЗ КОЖНЫ КАЗАЧНЫ Ў ГЭТАЙ КРАІНЕ ШУКАЕ ЦЯБЕ.

А БОЖУНА!

ЗЛАТАВАЛОСКА! ТУТ?!

НУ, ДЫК **КАЛІ** ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПАДЗЯЛІЦЦА СВАІМ **ПЛАНАМ**, ЯК ДАСТАВІЦЬ МЯНЕ Ў БЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА... І ШТО БОЛЬШ ВАРТА... ВА СКОЛЬКІ МНЕ ГЭТА **АБЫДЗЕЦЦА**? Я ПАДАЗРАЮ, ШТО **ДАРАЖЭЙ**, ЧЫМ ПРОСТА АДСМАКТАЦЬ.

ВЫБІРАЕМСЯ АДГЭТУЛЬ, КАПРАЛ РЭКС. ПРА ГЭТА ТРЭБА **ЗАРАЗ ЖА** ПАВЕДАМІЦЬ.

**НАШМАТ** ДАРАЖЭЙ.

ДАСТАТКОВА, КАБ КАМПЕНСАВАЦЬ ЖУДАСНУЮ **РЫЗЫКУ**, ЯКУЮ ПРЫМАЮ НА СЯБЕ, **ХАВАЮЧЫ** ЦЯБЕ.

ХМ?!

Я СКАЗАЎ, ГЭТА БУДЗЕ КАШТАВАЦЬ ТАБЕ ДАСТАТКОВА, КАБ КАМПЕНСАВАЦЬ...

ДЫ НЯ ТЫ! Я ШТОСЬЦІ БАЧЫЛА! МЫШ!

НЕ ТУРБУЙСЯ, КАХАНАЯ. Я АБАРАНЮ ЦЯБЕ АД ВЯЛІКАЙ ЗЛОЙ МЫШЫ.



ГЭТА НЯ ПРОСТА **МЫШ, ДУРАНЬ!** ПА-МОЙМУ НА ЁЙ БЫЎ ВЕРШНІК! ГЭТА ПРАКЛЯТАЯ МЫШЫНАЯ ПАЛІЦЫЯ!
ДАПАМАЖЫ ЗЛАВІЦЬ ЯЕ, ЦІ ЗАБЕЙ ЯЕ, ІНАКШ НАС **АБОДВУХ** ПАВЕСЯЦЬ!
АЛЕ – –!
ВОСЬ ЯНЫ!
ІМЧЫСЯ ЯК ВЕЦЕР, РЭКС!
У ПЕКЛА ВЕЦЕР!


Я ХУТЧЭЙ ЗА **ВЕЦЕР** У САМЫ ГОРШЫ СА СВАІХ ДЗЁН.




СЮДЫ!


УФ!


**УСТАВАЙ,** БОЎДЗІЛА! ЯНЫ СЫХО-ДЗЯЦЬ!


ГЭТА ТЫ КАЖАШ. Я **НІЧОГА** НЯ БАЧЫЎ.


ВОСЬ НАШ ВЫХАД.
Я БАЧУ.


У НАС АТРЫМАЛАСЯ, СЯРЖАНТ! УРРРА НАМ!


БЗДЫЧ
РЭКС!


СЫХОДЗЬ АДСЮЛЬ, БОС, СА МНОЙ УСЁ СКОНЧАНА.
АЛЕ...
ЧОРТ ДЗЯРЫ, ВЫКОН-ВАЙ СВОЙ АБАВЯ-ЗАК.


І ШТО ТУТ У НАС?


АДНАК ЦІКАВА.

БАЧЫШ **СЯДЛО**? ГЭТА БЫЛІ ШПІЁНЫ МЫШЫНАЙ ПАЛІЦЫІ, ДАКЛАДНА.

АЛЕ НА КАГО ЯНЫ **ШПІЁНІЛІ**?

БЕЛАСНЕЖКУ ЦІ БОЗЛІ. У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, МЫ **ТРУПЫ**, ЯК ТОЛЬКІ НАПАРНІК ГЭТАЙ ЖЫВЁЛІНЫ ДАБЯРЭЦЦА ДА АДНАГО З ІХ, КАБ ПАВЕДАМІЦЬ ПРА ТОЕ, ШТО ЁН БАЧЫЎ.

ДЫК ШТО НАМ РАБІЦЬ, СЭР?

ШПІЁН ЦЯПЕР ПЕШАХОД. ЯМУ ТРЭБА ЧАС, КАБ ДАБРАЦЦА ДА АДНАГО З ІХ. МНЕ ПРОСТА НЕАБХОДНА ПАДАБРАЦЦА ДА ІХ **ПЕРШЫМ**.

АДРАЗУ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я ВАЗЬМУ ШТОСЬЦІ ДРЭННАЕ З МАІХ АСАБІСТЫХ ЗБРОЕВЫХ ЗАПАСАЎ.

**АПРАНАЙСЯ**, ЗЛАТАВАЛОСКА. ЦЯПЕР НАДЫЙШОЎ ЧАС АПЛАЦІЦЬ ТАБЕ СВОЙ АБАВЯЗАК... ХУТЧЭЙ, ЧЫМ Я ПЛАНАВАЎ, І МЕНШ ВЫТАНЧАНА, АЛЕ НЕ ЗАЎСЁДЫ АТРЫМЛІВАЕЦЦА ЗРАБІЦЬ ЎСЁ З ТОЛКАМ І РАССТАНОЎКАЙ.




АКЕЙ, МЫ ТУТ.


ЦЯПЕР РАСКАЖЫ НАМ, ШТО ГЭТА НАСТОЛЬКІ ВАРТАЕ, ШТО ТЫ ВЫЦЯГНУЎ НАС АБОДВУХ З ПАСЦЕЛЯЎ, ЗАДОЎГА ДА **НАРМАЛЬНАГА** ПРАЦОЎНАГА ЧАСУ?


ВЫ БУДЗЕЦЕ РАДЫ, ШТО Я ЗРАБІЎ, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА. ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ГЭТА.
АКЕЙ, ЦЯПЕР МНЕ ЦІКАВА. **ШТО** ГЭТА?


ТОЕ, ШТО ДЖЭК СПРАБАВАЎ ПРАДАЦЬ МНЕ МІНУЛАЙ НОЧЧУ Ў БРЭНСТОКЕ.
ЁН **СЦВЯРДЖАЕ**, ШТО ГЭТА ВЫСОКАМАГІЧНА І ЁН МОЖА ПАСТАВІЦЬ ЦЭЛУЮ СКРЫНКУ.


ПРАМОЕ ПАРУШЭННЕ ПАТРАБАВАННЯ ЗДАВАЦЬ УСЕ ВАЖНЫЯ МАГІЧНЫЯ АРТЭФАКТЫ Ў АГУЛЬНАЕ ВАЛОДАННЕ І НА БЯСПЕЧНАЕ ЗАХОЎВАННЕ Ў КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ.
ПАЧАКАЙЦЕ, ПАКУЛЬ НЕ ЎБАЧЫЦЕ, ШТО ЯНО РОБІЦЬ.
ГЭЙ, МАБЫЦЬ ТАБЕ НЯ ТРЭБА...


...ГЭТА РАБІЦЬ.
СУЧЫ...


ЦЯПЕР ЛЕПЕЙ? ТАДЫ СЛУХАЙЦЕ МЯНЕ. ВОСЬ ВАШЫ ЗАГАДЫ НА НЕКАЛЬКІ НАСТУПНЫХ ДЗЁН...


ЛЕДЗЬ ПАЗНЕЙ...
І ПАМЯТАЙЦЕ, КАЛІ ВЫ ЯКІМСЬЦІ ЦУДАМ ЗМОЖАЦЕ АЦАЛЕЦЬ, ВА ЎСІМ ВІНАВАТЫ ДЖЭК.
Кіраўніцтва бяспекі Б.Воўк


І ЯШЧЭ ПАЗНЕЙ...
СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА, ЯКАЯ ПРЫЕМНАЯ НЕЧАКАНАСЦЬ БАЧЫЦЬ ЦЯБЕ, ПРАХОДЗЬ.


НЕ ЎЗГАДВАЮ, КАБ У НАС БЫЛА ПРЫЗНАЧАНА СУСТРЭЧА, УСЁ Ў ПАРАДКУ? МАЯЧЫЦЬ НЕЙКІ НОВЫ КРЫЗІС?
НЕ, УСЁ Ў ПАРАДКУ, СЭР. НАСТОЛЬКІ Ў ПАРАДКУ, ШТО Я ВЫРАШЫЛА ЎЗЯЦЬ ВОДПУСК.


У МЯНЕ ЗАРАЗ ПАВІННА НАБРАЦЦА НЕКАЛЬКІ СОТНЯЎ ДЗЁН ВОДПУСКУ.
НУ ТАК, АЛЕ... ТЫ **НІКОЛІ** НЯ БРАЛА ВОДПУСКАЎ, ГЭТА... ЭМ, КУДЫ ТЫ ПЛАНУЕШ ПАЕХАЦЬ?


Я ПАКУЛЬ ДАКЛАДНА НЯ ВЕДАЮ, МАБЫЦЬ ПАСПРАБУЮ ПАГУЛЯЦЬ У ЛАС-ВЕГАСЕ ЦІ ПАЛЯЖАЦЬ НА ПЛЯЖЫ Ў КАНКУНЕ.
НЕ - ЯШЧЭ ЛЕПЕЙ, ТУДЫ, ДЗЕ МЯНЕ НЕ ДАСТАЦЬ ПА ТЭЛЕФОНЕ. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ Я ПАЕДУ Ў ПАХОД КУДЫ-НЕБУДЗЬ ДАЛЁКА-ДАЛЁКА.


Я СКАЗАЛА ПАСТУШКУ КАНСУЛЬТАВАЦЦА Ў ВАС, КАЛІ ЗДАРЫЦЦА ШТОСЬЦІ ВАЖНАЕ, ПАКУЛЬ МЯНЕ НЯ БУДЗЕ.
**КАНСУЛЬТАВАЦЦА** Ў МЯНЕ? ЧАМУ Ў МЯНЕ? МЫ ТАК **НЕ** ПРАЦУЕМ. ЧАМУ НЯ Ў БОЗЛІ ВОЎКА?


ВОЙ, Я ВАМ НЕ СКАЗАЛА? ЁН **ТАКСАМА** ЕДЗЕ. У ЯГО ТАКСАМА ВОДПУСК.


ТАК АТРЫМАЛАСЯ, ШТО МЫ АДЧАЙНА ЖАДАЕМ ПАЕХАЦЬ РАЗАМ.




ВОСЬ ТВОЙ БІЛЕТ І СУТАЧНЫЯ.


ТЫ БУДЗЕШ НА ТЫМ ЖА РЭЙСЕ, ШТО І ЯНЫ, АЛЕ НЕ **ХВАЛЮЙСЯ**... Я КУПІЎ ТАБЕ МОЦНЫЯ ЧАРЫ, І АКРАМЯ ТАГО ІМ НЕ **ДАЗВОЛЕНА** ШТОСЬЦІ ЗАЎВАЖАЦЬ САМА МЕНЕЙ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН.


ТЫ НЯ ЗМОЖАШ ПРАНЕСЦІ ЗБРОЮ НА САМАЛЁТ... НАВАТ У ПРАВЕРАНЫМ БАГАЖЫ... ТАМУ ТАБЕ ДАВЯДЗЕЦЦА **КУПІЦЬ** ЯЕ Ў ПУНКЦЕ ПРЫЗНАЧЭННЯ.
І КАЛІ МНЕ ІХ ЗАБІВАЦЬ?


НЕ РАНЕЙ, ЧЫМ ЯНЫ АД'ЕДУЦЬ АД ЦЫВІЛІЗАЦЫІ.
ПЕРАКАНАЙСЯ, ШТО ІХ ЦЕЛЫ НІКОЛІ НЯ ЗНОЙДУЦЬ.


І, ЗЛАТАВАЛОСКА, У ГЭТЫ РАЗ НЕ ЗАВАЛІ СПРАВУ.
ДАЛЕЙ: ПУНКТ ПРЫЗНАЧЭННЯ.